# ДЕНЬ

23 ліпеня 2003 года, серада | № 1 (172) | Кошт па дамоўленасці


## Васілю Быкаву

*Час стагоддзі, як касой сцінае,*
*Веры, царствы,*
*догмы йдуць да ценяў...*
*Усё мінае – Гонар не мінае,*
*Бо народжаны адным сумленнем.*

*Калі сонца выб'ецца з туману,*
*Толькі іх і ўспомніць хор народаў,*
*Воінаў сваіх, святых і зраненых,*
*Рыцараў сумлення і свабоды.*

***Уладзімір Караткевіч***

# Быкаў і Гродна



Фота У. Кармілкіна

Вялікі Беларус, вялікі Грамадзянін, Васіль Вялікі... Нават пры жыцці гэтыя словы ў адносінах да Васіля Уладзіміравіча Быкава не здаваліся празмерна пафаснымі. Жудасная смерць, забраўшы ад нас вялікага пісьменніка і вялікага чалавека, толькі падкрэсліла планетарны маштаб постаці Васіля Уладзіміравіча, ягонае значэнне для беларускага грамадства, беларускай дзяржавы, беларускай нацыі.

Сёння шмат разважаюць пра карані феномена Быкава. Шукаюць іх на роднай для Васіля Уладзіміравіча Вушаччыне. Гавораць пра тое, што гэта фронт, як тое гарніла, здолеў сфармаваць і загартаваць пяро вядомага на ўвесь свет майстра слова. Разважаюць нават пра ўплывы маскоўскіх рэдактараў. Аднак яшчэ ніхто і нідзе ў поўны голас не ўспомніў пра тое, што шлях у зорную вечнасць для пісьменніка Быкава пачаўся ў горадзе над Нёманам, у найпрыгажэйшым Гродне.

Амаль чвэрць стагоддзя спадар Васіль пражыў у самым беларускім з беларускіх гарадоў. Менавіта ў Гродне былі напісаныя ягоныя першыя творы. Менавіта ў Гродне напісаныя творы, якія паставілі Быкава ў першы шэраг пісьменнікаў светавай літаратуры. Ад'язджаючы ў 1978 годзе ў Менск гарадзенец Васіль Быкаў ужо быў і Лаурэатам, і Кавалерам ардэноў... Ужо тады, як бы гэтага не хацелася ягоным ворагам і апанентам, ён быў ВАСІЛЁМ БЫКАВЫМ.

Вось чаму мы можам смела сцвярджаць пра непарыўную ўзаемасувязь паміж Быкавым і Гродна. Пра тое, што толькі Гродна з ягонай унікальнай гісторыяй, архітэктурай, культурай, непаўторным заходнебеларускім шармам мог сфармаваць МАЙСТРА такога ўзроўню і такога маштабу. А самае галоўнае, у гэтым горадзе і сёння жывуць многія з тых, хто ўваходзіў у найбліжэйшае атачэнне Васіля Быкава, тыя, хто зблізку ведаў вялікага пісьменніка, хто сябраваў з ім. Тыя, хто дыхаў з ім адным паветрам, еў адзін хлеб. Тыя, хто не толькі браў у Васіля Уладзіміравіча, але і даваў яму, неўпрыкмет дапамагаючы Быкаву стаць тым Быкавым, якога ведае увесь свет. Гэтыя людзі і сёння добра памятаюць «нашага Васіля»...

**27 ліпеня а пятнаццатай гадзіне ў гарадзенскім Фарным касцёле будзе правіцца ўрачыстая імша ў памяць Вялікага Гарадзенца.** Давайце ж і мы, паважаныя чытачы, разам з жыхарамі Гродна, схілім свае галовы перад Сумленнем Беларусаў, яшчэ раз пройдзем гарадзенскімі вуліцамі Васіля Быкава побач з ягонымі блізкімі, знаёмымі і сябрамі.

***Рэдакцыя***

## З кнігі «Доўгая дарога дадому»:

*«...Якраз на дзень Перамогі цягніком цераз Баранавічы паехаў у Горадню, – горад, дзе ў мяне не было аніводнай знаёмай душы. І які гэтак грунтоўна і на шмат год прычыніўся да майго чалавечага лёсу.*

*Зь першага погляду горад мне спадабаўся, не такі ўжо і пабураны (хоць у цэнтры і траплялі руіны некаторых будынкаў), але ў ім адчувалася пэўная «заходнасць», рысы сярэднявечча – у старых будынках, касьцёлах, нават у брукоўцы вуліц. Зноў жа – два замкі і Нёман. Дужа гэта міла здалося майму сэрцу, зьнябытаму на чужыне. Паўдня хадзіў па вуліцах, прыглядаўся, але куды зайсьці не наважыўся. Першую гарадзенскую ноч правёў на вакзале. Ранкам пайшоў шукаць майстэрню мастацкага фонду...»*

# ІДУ НА ТВОЙ ГОЛАС

**Сваімі ўспамінамі пра Быкава на старонках нашай газеты дзеліцца паэтка Данута Бічэль:**

– Памятаю яго маладым, прыгожым, поўным сіл і энергіі. Быкаў быў вельмі сімпатычным. І гэта была не прыгажосць нейкага там экраннага героя, гэта быў такі беларускі, ціхі вобраз хлопца, маладога мужчыны, заўсёды ўважлівага. У Васіля былі надзвычай прыгожыя вочы, і гэтыя вочы былі жывыя. Быкаў быў кампанейскі, яго ўсе любілі, бо ніколі не надрываўся, нікога не зневажаў, не гыркаў, ніколі не выбухаў, быў спакойны і ціхі. Сам Васіль, здаецца, ніколі не імкнуўся падабацца людзям. Ён як філосаф нібы глядзеў на людзей збоку, і сам апынаўся ў іхнай сітуацыі, ацэньваў сябе іх вачыма. Гэта пастава пісьменніка, многія разумныя пісьменнікі гэтак сябе паводзяць – філосафамі.

Мець такога настаўніка і пачынаць з ім ісці ў літаратуру – вялікае шчасце, гэта тое, што даецца Богам. Мы хадзілі да Васіля на працу, дахаты, каб палюбавацца на яго, пачуць яго і атрымаць вялікую, як сёння кажуць, энергію, натхненне. Божа мой! Гэта была нейкая любоў да куміра. Мы любілі ўсё, чым ён жыў. Памятаю, прыйшлі аднойчы з Ларысай Антонаўнай Геніюш да Быкава, а яны сядзяць з Васем (*малодшы сын Васіля Быкава – рэд.*) на нейкай канапе абняўшыся і пра нешта свае гавораць. Відаць, трэба было сына павучыць, паўшчуваць, але бацька проста абняў яго – такая шчырасць! Гэтая карціна так і стаіць у маёй памяці.

Да Быкава мы заходзілі часта. Раніцай ён заўсёды быў стомлены, бо ўночы пісаў. Часам я прыходзіла адна, часам яшчэ з кімсьці, мне проста хацелася з ім пагаварыць. Потым, праз нейкі час гэтыя гаворкі пераўтварыліся ў тэлефанаванні. Ініцыятыва не заўсёды ішла ад мяне, вельмі часта ён сам званіў. У пачатку 70-х, памятаю, пазвоніць і скажа: «Ну, давай сустрэнемся». А я жыла тады на Паповіча, Быкаў на Свярдлова, і так выходзіла, што мы сустракаліся за Нёманам. Мы ішлі па беразе ў адзін ці іншы бок і паволі гутарылі. Быкаў у той час ужо ведаў, што яго падслухоўваюць, і мы размаўлялі звычайна вось так, на вуліцы...

***– Часам седзячы за сталом Быкаў маляваў нешта. Алоўкам, асадкай – гэта ў яго выходзіла надта добра. Адчувалася, што ў Васіля гэты талент ёсць, але ён знарок яго загубіў, абраўшы літаратуру. Я доўгі час захоўвала ягоны малюначак. Чалавечак бяжыць на п'едэстал, дзе стаіць помнічак, а на помнічку гэтым напісана «Васіль Быкаў» і ўнізе даты жыцця: «1924-1985»... Васямнаццаць гадоў пражыў ён больш за тое, што сам сабе прызначыў....***

Мяне ён называў «свойскім хлопцам». Так, я была ў іх з Карпюком свойскім хлопцам. Гэта вельмі харошая пазіцыя. Бо яны не ўспрымалі мяне як жанчыну, гэта значыць не трэба было да мяне заляцацца. Інакш гэта былі бы зусім іншыя, нейкія штучныя, гадкія адносіны. Мы былі проста сябры, і яны мяне гэтак успрымалі . І за тое я ім вельмі ўдзячная. Столькі разоў яны мяне ратавалі з нейкіх дурных сітуацыяў, у якія я па-бабску ўлазіла! І толькі таму, што яны мяне лічылі свойскім хлопцам.

Быў пісьменніцкі з'езд. І мяне праводзілі да гатэля менчукі. Вядома, прыехала з правінцыі жанчына, нязношаная яшчэ, не надакучыла ім. Цікава ім было, што гэта за Данута, бо яна не з імі, а недзе ўвесь час убаку. І вось ідзе за мною цэлы гэты шлейф мужчынаў. Падводзяць пад гатэль «Мінск» і пытаюць, у якім я нумары жыву. А тут аднекуль узяўся Быкаў і кажа: маўляў, яна жыве ў такім-та нумары, – бярэ мяне пад руку, і мы падымаемся наверх, а ўсе менчукі застаюцца ўнізе. Вось такі ён быў, проста даваў зразумець, што літаратура – гэта ёсць літаратура і нічога болей.

Мы часта сустракаліся ўтрох: Быкаў, Карпюк і я. Ініцыятыву часцей за ўсё праяўляў Карпюк: «Зайдзі, пагаворым». Заходжу ў Саюз пісьменнікаў, а там ужо сядзіць і Быкаў. Гаварылі пра ўсё: пра жыццё, пра літаратуру... Што мы любілі – гэта разыгрываць Карпюка, бо Карпюк выступаў з трыбуны заўсёды ўсур'ёз і надта любіў адказваць на пытанні. І Быкаў часта перадаваў яму напісанае на паперцы якое-небудзь дурное пытанне. Напрыклад, на сур'ёзным нейкім сходзе: «Хто Вам, Аляксей Нічыпаравіч, больш падабаецца, бландынкі ці брунэткі?» Карпюк пачынаў адказваць, а потым да яго даходзіла, што гэта нашае пытанне...

Часта разам ездзілі ў Менск на пісьменніцкія сходы. Памятаю, тады толькі-толькі ўвайшоў у моду нейлон. І яны двох у гэтых нейлонавых белых кашулях. Такія прыгожыя мужчыны, інтэлігентныя, адрозніваюцца ад іншых... Наязджалі часам у Друскенікі, дзе літаратары адпачывалі. Памятаю, тэлефануе Быкаў: «Паехалі ў Друскенікі, там Адамовіч сумуе...»

Да прэміяў усялякіх, пасадаў ён ставіўся спакойна. Усё-ткі час быў зусім іншы: адмаўляцца ад гэтага ўвогуле немагчыма было, а прымаць трэба. Калі яму далі нейкую чарговую вялікую ўзнагароду, я спытала яго, ці лёгка яму браць гэтыя ўзнагароды. А ён адказаў: «Мяне занадта доўга кармілі горкім – чаму я цяпер павінен адмаўляцца ад салодкага?» Хаця побач з такім салодкім у яго столькі гэтага горкага было! Нават невядома, што тут пераважала. Але Быкаў ведаў: усё, што яму даюць, ён заслужыў і заслужыў значна больш.

Гэтая вядомасць, узнагароды, прэміі не змянялі яго. Мы, маладыя паэткі, былі ў Быкава закаханыя. Ён не падзяляў нас на рускіх ці беларускіх паэтак, для яго мы ўсе былі маладымі пачаткоўцамі. І ніколі нікога штучна не схіляў да беларускай мовы. Усіх, хто да яго звяртаўся, хто прыносіў вершы ён прымаў такімі, якія ёсць. Сітуацыя з мовай у той час не здавалася такой трагічнай. Яшчэ былі беларускія школы, іх пакрысе зачынялі, але яны былі. І нам было дастаткова, што мы самі ў сваім коле гаворым па-беларуску. У Гродне на вуліцах у той час можна было пачуць беларускую мову. У транспарце ніхто не цыкаў на цябе, калі загаворыш па-беларуску, казалі: «Напэўна, настаўніца беларускай мовы». Канешне, Быкаў хацеў, каб тут пісалі пабеларуску. Мог сказаць каму: «Навошта ты пішаш на рускай мове? Ты ж яе не ведаеш». У «Гродзенскай праўдзе» Быкаў рабіў літаратурныя агляды, і нам, маладым творцам, яны былі надзвычай важныя, бо Васіль усё расстаўляў на свае месцы, апраўдваў нашую лірыку. Большасць жа тады пісала вершы пра партыю, а мы пісалі пра каханне. І ён, каб не крыўдзіць нікога, даказваў, што такая лірыка можа існаваць, што моладзь мае права на пошук. І, канешне, жанчыны яго любілі ўсе, ад самых маладых да самых старых. Масквічкі – тыя больш нахабныя былі. Я сама раўнавала Быкава да гэтых маскоўскіх рэдактарак. Калі яны прыязджалі на з'езды, тады да Васіля было не даступіцца, таму што яго абкружалі гэтыя масквічкі. Але Быкаў быў уважлівы да нас, спакойны, а далей... Я ў шчылінку не падглядала, мне дастаткова было тых размоваў пра літаратуру і жыццё, што ён мне даваў.

Я часта прысутнічала пры пісьменніцкіх антысавецкіх размовах. Я ж была «свойскім хлопцам», і Васіль давяраў мне. Ужо тады ў размовах Быкава з Адамовічам я чула пра карычневую чуму, якая кіруе тут, у Беларусі. Сама мову нікалі не дадумалася бы, што бальшавізм – гэта фактычна тоесама, што фашызм. А яны пра гэта гаварылі. Я сядзела сабе ціхенька і слухала, часам яны захапляліся і забываліся на мяне... У Менску Быкаў часта сустракаўся з Адамовічам і таксама запрашаў мяне. Яны абмяркоўвалі свае будучыя кнігі. Настолькі адзін аднаму давяралі, што Быкаў нават распавядаў, як ён будзе закручваць той, ці іншы сюжэт у новым творы..

Вакол Быкава ў Гродне заўсёды круціліся самыя розныя чорныя людзі. Але ён не быў баязліўцам. Калі цябе правакуюць на нейкую размову, а ты проста не хочаш быць смаўжом, калі хочаш гаварыць, дык гаворыш тое, што думаеш. Не зважаючы, данясе ён вашую размову, дзе яму трэба, ці не. Быкаў быў заўсёды адкрыты, натуральны. Я аніразу не чула і не бачыла, каб ён каму сказаў: «Я не буду з табой гаварыць». Неяк ён з людзьмі валаводзіўся. Быў большым хрысціянінам за мяне, каталічку, бо я магу паслаць, а ён ніколі не пасылаў. Здаецца мне, што ён і на другі бок вуліцы не пераходзіў, калі бачыў, што насустрач ідзе хтосьці яму непрыемны. Ніколі не паказваў стукачу і здрадніку, што яго ненавідзіць. Неяк яму гэтае ўдавалася. Быў сапраўдным хрысціянінам. Мог са здраднікам выпіць чарку за свае грошы, заробленыя па начах...

Быкаў свядома спланаваў сваё жыццё. І свядома абраў прафесію пісьменніка. Такіх пісьменнікаў было няшмат. Васіль пачаў пісаць пра гэтую страшэнную вайну, бо, відаць, меў патрэбу папярэдзіць людзей, распавесці, што ён перажыў, што ведае пра вайну. У нашай літаратуры, бадай, толькі ён і Караткевіч займаліся псіхааналізам чалавечых учынкаў і паводзінаў грамадства. Быкаў кожны год выдаваў аповесць, невялікую і немалую, такую, каб улезла ў часопіс. Гэта свядомы быў выбар. Бо за адзін год можна напісаць толькі «Трэцюю ракету», толькі «Здраду», толькі «Яго батальён». Шмат за год напісаць добрай літаратуры цяжка, і самае галоўнае – яно ўлезе ў добры тоўсты часопіс і людзі яго прачытаюць. І другое рашэнне: калі хочаш быць увесь час на паверхні літаратуры, ісці ўвесь час угару – трэба, каб пра цябе не забылі, каб увесь час пра цябе пісалі, каб чыталі і памяталі, што такі Быкаў ёсць. І Быкаў рабіў гэта. Аж да «Доўгай дарогі дадому». Гэтая кніга – гэта завершанасць яго жыцця. Адзінае, чаго б я хацела, каб ён таксама, як зрабіў глыбока і поўна частку пра сваю вайну, дзе, здаецца, не засталося ягоных таямніц, зрабіў гэтак жа глыбока і поўна пра 90-я нашыя гады, пра гэтую нашу бяскроўную рэвалюцыю, якая насамрэч столькі крыві людской адабрала. Але, відаць, 90-я для Васіля былі яшчэ вельмі свежыя, а можа проста стаміўся...

Я настолькі доўга жыла пад ягоным уплывам, пад ягонымі промнямі, што калі Быкаў з'ехаў у Менск, атрымалася, што мне ўсё трэба было вырашаць самой, пачынаць жыць фактычна з нуля. Вялікага маральнага аўтарытэта, якім быў для мяне Быкаў, у Гродне не стала, і мне было ўжо каму проста патэлефанаваць: «Васіль, а як мне паступаць у той ці іншай сітуацыі?» Я магла яго не слухаць, але заўсёды выходзіла, што праўда была на ягоным баку.

...Аднойчы па запрашэнні абкама камсамола ў Гродна прыехалі менскія пісьменнікі, а візіт заканчваўся ў Скідалі, дзе ў клубе зрабілі літаратурны вечар... Я той вечар чаму запомніла. Мы выйшлі з таго клуба: цёмна, лужы вакол... Быкаў тады кажа мне: «Ідзі на мой голас». Вось гэта фраза мяне здзівіла. «Божа-Божа, – думаю, – я ж іду на твой голас усё жыццё...»

***Апрацаваў Іван Паўлёнак***



***Аляксей Карпюк і Васіль Быкаў***



***Данута Бічэль, Васіль Быкаў, Аляксей Карпюк (пачатак 60-х гадоў, здымак з прыватнага архіву Міхаіла Анішчанкі)***

## З кнігі «Доўгая дарога да дому»:

***«...Пазьней, калі ўжо стаў аўтарам кніжак, у мяне спыталіся: як і чаму сталася тое? Што хацеў сказаць чалавецтву, якой ісьціне яго навучыць? Мабыць, ніякіх ісьцін; адразу адчуў, што па натуры я не прапаведнік. Тады для мяне важна было намацаць свой шлях у жыцці, неяк вызначыцца. Мне ішоў 32-гі год, а ў галоўных адносінах – пошуках свайго месца сярод людзей я быў пачаткоўцам. Пэўнага месца ў жыцьці ў мяне не было, што, безумоўна, не магло не турбаваць мяне, як і кожнага чалавека ў гэткім становішчы. Тое ж, чым я займаўся з юначых гадоў, аказалася зманам, пустэчай, поўнаю непатрэбнасьцю. Суцяшала хіба меркаваньне, што ўсё тое адбывалася не па ўласнай волі. На тое быў змушаны. Лёсам, жыцьцём, людзьмі – добрымі і злымі. А найбольш уладай, якая ў нас тады намагалася вызначаць усё – ад глабальных мэтаў да лёсу маленькага чалавека...»***

# Тры адрасы Васіля Быкава

**Мы досыць добра ведаем публічнага Васіля Быкава, і амаль нічога пра Быкава дамашняга, пра яго характар, стасункі з людзьмі, штодзённую працу.**

**Ніна Піліпаўна Хвашчынская больш за пятнаццаць гадоў была знаёмая з сям'ёй Быкава, пакуль Васіль Уладзіміравіч жыў у Гродне. Разам з Надзеяй Андрэеўнай, першай жонкай Быкава, яна настаўнічала ў школе № 14. За час сяброўства з Хвашчынскімі быкаўская сям'я змяніла ў Гродне тры кватэры. Ва ўсіх – на Кашавога, Свярдлова і Парыжскай Камуны – Ніну Піліпаўну з мужам Аркадзем Мікалаевічам заўсёды былі радыя бачыць.**

**Сёння мы ідзем з Нінай Піліпаўнай па тых адрасах Быкава.**

## Вуліца Вялікая Траецкая (колішняя Алега Кашавога), д. 28, кв. 20

На першым паверсе, у невялікай кватэры плошчай 40 м.кв., падзеленай на тры пакоі, жыла сям'я маладога Быкава. Трэцяе з левага краю дома вакно быкаўскага кабінета выходзіла на гаманкую гарадскую дарогу, якая ў тыя часы поўнілася людзьмі і транспартам. Не зважаючы на цеснату і гуд, схіліўшыся над пісьмовым сталом, спачатку ў спаленцы, а потым у кабінеце, ён ціхенька пісаў свае вайсковыя аповесці і не думаў, што яны прынясуць яму светавую вядомасць, шматлікія дзяржаўныя прэміі, а з усім гэтым – варожасць і ціск уладаў.

*– Калі б вы ўбачылі Быкава дома, вы б зусім не падумалі, што гэта вялікі пісьменнік, што гэты чалавек так думае,* – Ніна Піліпаўна ўсміхаецца. *– Шчупленькі такі, дома ён любіў хадзіць просценька, у спартовым чорным касцюмчыку. Як хто чужы ў хату зайшоў бы, то падумаў бы, што гэта старэйшы сын. Адно позірк пранікнёны, глыбокі, з-пад ілба.*

Менавіта ў гэтай кватэры напачатку 60-х Ніна Піліпаўна ўпершыню ўбачыла Васіля Быкава. У той дзень яна зайшла да Надзеі Андрэеўны, каб памяняцца футрамі:

*– Я прыйшла з мужам. Выходзіць Быкаў насустрач і кажа: «Ну, мяняйцеся». У Надзеі Андрэеўны было каракулевае футра, а ў мяне – коцік, завялікі трошкі на мяне. Памераліся мы, але так мне нічога і не дапасавала. Быкаў пабачыў, што ў нас нічога не атрымліваецца, і з усмешкай пытаецца: «А чым вы яшчэ мяняцца будзеце?» Запрасіў нас на гарбату. Так мы і сябравалі з тых часоў.*

...Праз некаторы час гарадскія ўлады палічылі, што кватэра для сям'і Быкава завялікая і падсялілі да іх Еўдакію Васільеўну, жанчыну ўжо сталага веку. Неспадзяваная кватаранка хутка стала для Быкавых блізкім чалавекам, гадавала іх сыноў – старэйшага Сяргея і малодшага Васіля. Калі Еўдакія Васільеўна з'ехала, Быкаў зрабіў у яе невялічкім пакойчыку, дзе з цяжкасцю маглі размясціцца тры чалавекі, свой кабінет.

**Ніна Піліпаўна прыгадвае, што вучыла малодшага сына Быкава з пятага па дзесяты клас.**

**– Аднойчы была такая недарэчнасць у нас. Святкавалі ўгодкі Купалы, ну і як звычайна – конкурсы розныя. Вася прынёс нататнічак, увесь у малюнках, зробленых Васілём Уладзіміравічам звычайным алоўкам паводле паэм Купалы. Я паглядзела і кажу Васю, што ён возьме першае месца, толькі хай нікому не кажа, што малюнкі бацькавыя. Прайшоў час. Я пытаюся ў кіраўніка метадычнага аб'яднання Сяргея Дразда, што з тымі малюнкамі, а ён кажа, што нават іх не разглядалі. Тады ж усё абы ярчэй, абы крычала. Ён як даведаўся, што гэта Быкаў маляваў, – за галаву схапіўся. Але нататніка гэтак і не знайшлі.**

## Вуліца Свярдлова, д.18, кв. 30

Вузкая вулачка Маладзёжная ад Брыгіцкага касцёлу выходзіць наўпрост на новы дом Васіля Быкава. На хвалі папулярнасці пісьменніку далі чатырохпакаёвую кватэру па вуліцы Свярдлова. Відавочна, гарадскія і партыйныя ўлады, выдзяляючы Быкаву, які гасцяваў калегаў з усяго свету, прэстыжныя кватэры, рабілі тое з уласнай выгоды. Хоць такім чынам падмануць увесь свет, лісліва паказаць, што савецкая ўлада таксама шануе Быкава. Кватэра, праўда, была разбіта хутчэй на клетачкі, чым на пакоі, але затое – трэці паверх і дом толькі збудаваны. Тут Васіль Быкаў пачаў весці жыццё сапраўднага паважнага пісьменніка: да яго часта прыязджалі літаратары з СССР і замежжа. У той час на прыём такіх дэлегацыяў Быкаў мог аддаць 1000 савецкіх рублёў у дзень.

У новай кватэры Быкавым было ўжо нашмат больш раскошна, і яны змаглі нават завесці сабе сабаку – колі Кайру.

*– З Масквы яе сабе выпісалі. У Гродне аддалі ў сабачую школу. Разумная Кайра была – не распавесці. І такая гарэза! Быкавы яе любілі, песцілі. Яна і за сталом сядзела, і са слюнячкам ела. Потым Кайра ў нас на выхаванні была, да апошняга яе ад стала адвучыць не маглі. Пісьменнікам, як у госці прыйдуць, столькі забавы з тае Кайры было.*

Усе сцены ў хаце былі застаўленыя стэлажамі з кнігамі. Найбольш Быкаў меў слоўнікаў і перыёдыкі, шмат твораў на вайсковую тэматыку.

*– Ён не любіў мяшчанства, біжутэрыю, багатае ўбранне,* – гаворыць Ніна Піліпаўна. *– Як прэміі пачаў атрымліваць то не шыкаваў асабліва – непрыемна яму гэта ўсё было.*

Аднаго разу Ніна Піліпаўна ладзіла ў сваёй школе абмеркаванне «Альпійскай балады». Васіль Быкаў прыйшоў з менскім паэтам Алесем Ставерам. Яму спадабалася, як падрыхтаваліся дзеці. Выступіў сам. Тлумачыў, што ў цэнтры ягоных твораў – цана чалавечага жыцця ў крытычны момант. Дзякуючы Быкаву, навучэнцы школы сталі першымі, хто пачуў верш Ставера «Касіў Ясь канюшыну».

**Вельмі перажываў Васіль Уладзіміравіч за сваіх сяброў-пісьменнікаў. Часта гаварыў, што баіцца, каб Валодзя Караткевіч не спіўся, бо мае слабое сэрца. Апекаваўся ў Гродне паэткай Данутай Бічэль. Сам у няпэўным стане, у апале, ён без ваганняў кінуўся на абарону Аляксея Карпюка, якому прыпісвалі супрацоўніцтва з фашыстамі.**

**– Калі Карпюка пачалі цкаваць, яго адусюль пагналі, сродкаў на існаванне не было аніякіх. Толькі Быкаў яго тады і выратаваў. У 1982-м годзе, калі хавалі Надзею Андрэеўну, Карпюк прыйшоў да нас і спытаўся, колькі мы на пахаванне аддалі, дастаў з кішэні і вярнуў усе грошы. Сказаў, што каб не Васіль Уладзіміравіч, дык ён бы з голаду памёр.**

## Вуліца Парыжскай Камуны, д. 9, кв. 11

Апошняй гарадзенскай кватэрай, з якой Васіль Уладзіміравіч з'ехаў у Менск, сталася чатырохпакаёўка ў доме для партыйных босаў па вуліцы Парыжскай Камуны. За значнасць пасадаў, якія займалі ягоныя насельнікі, у народзе гэты дом празвалі «ластаўкіна гняздо».

Прасторная, у добрым раёне, кватэра ўжо цалкам адпавядала быкаўскаму статусу вядомага пісьменніка. Маладая жанчына, сённяшняя гаспадыня кватэры №11, дзе жыў Быкаў, распавяла, як Васіль Уладзіміравіч у свой час стаў уладальнікам гэтай кватэры. Маўляў, першы сакратар Гарадзенскага абкама КПБ Леанід Кляцкоў паклікаў да сябе свайго памочніка і загадаў пайсці разам з пісьменнікам і выбраць кватэру – якую Быкаў пакажа, такую і выпісаць. Быкаў абраў самую сонечную на чацвёртым паверсе.

Ніна Піліпаўна распавядае, як Васіль Уладзіміравіч не хацеў гэтай кватэры і толькі пад жончыным ціскам пагадзіўся:

*– Ён нават заяву напісаў, што адмаўляецца ад яе. Узяўшы, сказаў: «Сынам застанецца». Непрыемна было яму ў атачэнні партыйных начальнікаў жыць, заўсёды пад кантролем. Канс'ержка ледзьве не пашпарт на ўваходзе пыталася. Ніколі ён не быў сваім у гэтым доме.*

Атрымаўшы неўпадабаную кватэру, Васіль Уладзіміравіч узяўся перарабляць яе на свой лад. Рабіў гэта з імпэтам, балазе меў густ і калісьці ў маладосці вучыўся ў мастацкай вучэльні ў Віцебску.

*– Усё ў светлае пафарбаваў, а кухню блакітнай зрабіў. Я неяк заходжу туды, а ён дзверы фарбуе. Я пытаюся, дзе ўзялі такую добрую фарбу, а ён жартуе: «Ёсць адно месца, магу і вам дастаць». А фарба ацэтонавая, смярдзючая, задушыца можна. «Затое блішчыць, усім падабаецца», – паважна адказвае Васіль Уладзіміравіч.*

Кватэра сынам так і не засталася. Калі памерла Надзея Андрэеўна, сына Васіля з кватэры выпісалі, заявіўшы, што для аднаго чалавека яна завялікая, хоць на той час Васіль Васільевіч быў ужо жанаты, а жонку прапісаць па гэтым адрасе ўлады адмовіліся наадрэз.

**Маляваў Быкаў усё жыццё. Але чужым свае мастацкія творы не паказваў. У кватэры яго нявесткі Тацяны вісіць карціна – цемна-зялёны лес над шэрай азёрнай вадой, выпісаны дробненькімі пэндзлевымі мазкамі.**

У 1978-м годзе выйшла апошняя напісаная ў Гродне аповесць Васіля Быкава «Пайсці і не вярнуцца». Ніна Піліпаўна звяртае ўвагу на адзін вельмі нехарактэрны для Быкава, на яе думку, выраз:

*– Быкаў піша, што ў аднаго з герояў, Антона, засталося пачуццё фізічнай гідлівасці да жанчыны пасля блізасці з Зосяй. Я тады ў Надзеі Андрэеўны спыталася, адкуль гэта ў яго. Гэта зусім не тыпова ані для Быкава як чалавека, ані для яго твораў. Гэткі, відаць, быў у яго ў той час душэўны стан...*

...Васіль Уладзіміравіч ад'ехаў з Гродна. Колькі разоў прыязджаў сюды, рэгулярна тэлефанаваў сваякам і старым сябрам, але ўжо ніколі не жыў тут.

***Алеся Сідлярэвіч***

## З кнігі «Доўгая дарога да дому»:

**«...Нарэшце займеў больш-менш нармальную кватэру, праўда з падсяленкай, адзінокай бухгалтаркай Еўдакіяй Васільеўнай, разам зь якой пражыў гадоў дзесяць. Тады ўжо меў двух сыноў – другі, Вася, нарадзіўся якраз на мой дзень народзінаў, таму яго так і назвалі – Васіль Васільевіч. За Домам быў неблагі дворык з дрэвамі, на заходні манер мошчаны пліткамі. Калісь тут было манастырскае падвор'е, агульнае з суседнім рэдакцыйным будынкам. І рэдакцыйны будынак мне падабаўся. Меў ён два паверхі, на першым разьмяшчалася друкарня з яе лінатыпамі, вярстальным цэхам, цынкаграфіяй, тэлетайпнай. Другі абапал калідору займалі кабінэты адзьдзелаў. Столь ва ўсіх была высокая, вокны таксама. Паркетная падлога. Адна нязручнасьць – кафельныя грубкі, якія ня надта грэлі зімой...»**



***Васіль Быкаў з унукам Сяргеем***
***(фота з сямейнага архіву Быкавых)***



***Сям'я Быкавых з пакаёўкай. Злева направа: Надзея Андрэеўна, Васіль Быкаў з маленькім Васілём, Сяргей (60-ыя гады)***



***Сяброўская вечарына ў доме Быкавых***
***(фота з сямейнага архіву Быкавых)***

## Кнігі, напісаныя ў Горадні

Першую для мяне аповесьць Васіля Быкава я не прачытаў сам, а пачуў яе. Яе нам чытала ўголас настаўніца на занятках пазакляснага чытаньня. Нават памятаю яе імя – Іраіда Ленкявічэне. Ёй падабалася «Дажыць да сьвітаньня». Прозьвішча лейтэнанта Іваноўскага мне адразу запомнілася. Я тады ня ведаў, што аўтар гэтай аповесьці жыве і піша ў братэрскім адносна нашага беларускім горадзе. Да нас, у наш літоўскі горад (*Шаўлі, Летува, – рэд.*), з Горадні прыяжджала дэлегацыя – якраз у школу, дзе я вучыўся.

Так атрымалася, што за горад свайго жыцьця пазьней я абраў якраз Горадню. Праўда, Быкава тут ужо не было. Але мне дастаткова было ўсьведамляць, што ён пражыў тут агулам 24 гады, што большасьць сваіх твораў напісаў тут. Твораў, дзякуючы якім стаў вядомым у сьвеце пісьменьнікам. Я прыйшоў працаваць у рэдакцыю, дзе калісьці працаваў ён. Некаторыя супрацоўнікі ведалі яго асабіста, памяталі часы, калі ён быў іхнім калегам. Мне гаварылі: «У гэтым пакоі працаваў Быкаў, вось ягонае крэсла». Дарэчы, яно захавалася дагэтуль. Праўда, мне сказалі, што сьпінка адламілася, але ж яго можна адрамантаваць.

А потым рэдакцыя перабралася ў новы будынак. Пакой Быкава (адзін з двох, у якіх ён працаваў) стаў часова кабінэтам прафсаюзнай начальніцы. Сёньня там крамка з канцылярскімі таварамі. Першым часам Васіль Быкаў дасылаў на сьвяты тэлеграмы, віншаваў рэдакцыйных супрацоўнікаў. Тэлеграму ад яго прышпільвалі на першым паверсе на дошцы разам зь іншымі віншаваньнямі. Але для мяне самым важным заўжды здавалася ягонае. І яшчэ, я пазнаёміўся зь Вітольдам Іваноўскім, які сябраваў раней з Васілём Быкавым (ці памятаеце лейтэнанта Іваноўскага?).

Асабіста зь пісьменьнікам размаўляў я вельмі каротка, дый тое пару разоў. Улетку 1993-га на першым Зьезьдзе беларусаў сьвету пазнаёміў яго з газэтай «Пагоня», якую прывез на зьезд з Горадні. Другім разам я ўбачыў яго з унукам на Савецкай вуліцы каля гастраному. Ён зайшоў, каб штосьці набыць хлопчыку. Гэта было напярэдадні ад'езду пісьменьніка ў Фінляндыю, калі ён наведаў сына. Я напісаў тады: першай зь беларускіх літаратараў тамака пабывала Цётка, а зараз едзе Быкаў. Толькі пазьней давялося прачытаць, што яшчэ раней – у XIX стагодзьдзі – Фінляндыю быў наведаў Ян Баршчэўскі.

Для мяне асабіста ўсе апошнія гады важным было, што Быкаў ёсьць, што ён па-ранейшаму піша, што прадстаўляе нас, беларусаў, за мяжой, што ён з намі, а ня з ворагамі беларушчыны. Зрэшты, інакш і не магло быць. Далёка ня ўсе быкаўскія творы я чытаў. З ваенных твораў мяне наагул больш уразіла «На імпэрыялістычнай вайне» Максіма Гарэцкага, які бачыў вайну якраз недалёка ад таго літоўскага гораду, дзе я скончыў школу. Але кнігі Васіля Быкава мне дарагія тым, што яны былі напісаны ў горадзе, у якім я сам стаў пісьменьнікам. Ён дыхаў гарадзенскім паветрам, бачыў камяніцы і храмы, думаў пра глыбіні гарадзкой гісторыі і – натхняўся. Хаця пісаў зусім пра іншае. Кнігі, напісаныя ў гэтым горадзе, стаяць у мяне на асобнай паліцы. Трэба прызнаць, што ня гэтак ужо і шмат жыло ў Горадні празаікаў. А самы вядомы – Быкаў.



**Сяргей Астравец**

# На памяць ад дзеда гарадзенскім Быкавым застаўся дуб



*Унук Яўген каля дуба, які пасадзіў дзед Васіль*



*Васіль Уладзіміравіч з малодшым сынам Васілём*
*(фота з сямейнага архіву Быкавых)*

**У Гродне жыве сям'я Васіля Быкава – малодшага сына пісьменніка.**

**Дваццацігадовы ўнук Яўген, які зусім нядаўна вярнуўся з войска, прыгадвае, што ў маленстве вельмі баяўся дзеда:**

– У яго быў вельмі гучны голас. І калі дзядуля прыязджаў да нас у Гродна, я заўсёды хаваўся ад яго. Пасля пасталеў і зразумеў, што ніколі ў жыцці не бачыў яго злосным.

У школе спачатку ніхто не верыў, што я ўнук Быкава. Пасля аднакласнікі пачалі зайздросціць: маўляў, мне бы такога дзеда! Аднойчы я не падрыхтаваўся да беларускай літаратуры. І настаўніца перад усім класам прысаромела, што выклікае ў школу не бацькоў, а майго дзядулю. Мне тады так сорамна было!.. Дзед увесь час цікавіўся, як ідуць у мяне справы ў школе, якія адзнакі. Я, безумоўна, адказваў, што вучуся вельмі добра, па літаратуры і мове адныя пяцёркі. Хаця насамрэч бывалі розныя адзнакі.

У дзеда была хранічная астма, таму, чакаючы ягонага прыезду ў Гродна, мама ўвесь час прыбіралася ў хаце, хвалявалася, каб пыліначкі не засталося.

Бацька збіраў і захоўваў усё, звязанае з дзедам. Прыносіў нам з братам газеты, дзе друкаваўся Быкаў, артыкулы пра яго. Захоўвае цэлы стос. Сам дзядуля дарыў нам усе свае кнігі. Падпісваў «Дарагім унукам...». Яшчэ на памяць ад дзеда нам застаўся дуб, які расце пад вокнамі нашай кватэры. Яго дзядуля пасадзіў разам з маім бацькам, калі той быў яшчэ зусім малы.

Мне часта кажуць, што я падобны на дзеда. Хаця мама цвердзіць, што я больш падобны на яе бацьку, іншага дзеда. Вось мой стрыечны брат, Сяргей, які жыве ў Менску, сапраўды падобны на Васіля Быкава. У іх і адносіны былі цяплейшыя. Яны часта бачыліся, гуляліся разам у салдацікаў – ляпілі іх сваімі рукамі, бітвы ладзілі.

З дзядулем бачыліся мы рэдка – прыкладна раз на паўгады. Але тэлефанаваў ён пастаянна, ліставаў кожны месяц. Ніколі не пісаў пра свае праблемы, больш цікавіўся нашымі. Страшэнна перажываў, калі мы з братам хварэлі. Калі мы прыязджалі да яго ў Менск, ён кідаў працу і ўвесь час быў з намі. Размаўлялі, хадзілі разам па горадзе.

Калі я быў у войску, ён вельмі хваляваўся за мяне, увесь час тэлефанаваў бацькам, пытаўся, як там я, ці ходзяць яны да мяне. Год таму я служыў у вучэбным падраздзеле ў Соснах, што пад Менскам. Ён прыехаў да мяне, прывез гасцінцаў, фотаздымкі. Ён вельмі змяніўся з нашай апошняй сустрэчы, моцна пастарэў. Мы нават спачатку не пазналі адзін аднаго.

У нас у сям'і ўсе рыбакі. Дзядуля, праўда, вудзіў рыбу рэдка: адпачываць неяк не выпадала, усё працаваў. Памятаю, як гадоў пяць таму я прыехаў да яго ў Менск. Перанačаваў, а зранку ён кажа: «Паехалі ў вёску». Тады ў Бычках налавілі рознай драбязы. Гэта была наша апошняя рыбалка...

**Занатавала Юлія Дарашкевіч**

# Ад Гродна да Менску

## Гарадзенская біяграфія Васіля Быкава

Васіль Быкаў прыехаў у Гродна ў 1947 годзе па дэмабілізацыі. У Гродне былі мастацкія майстэрні, і ён, маючы навыкі мастака, уладкаваўся тут на працу. У тым жа годзе перайшоў у рэдакцыю газеты «Гродзенская праўда», з 1948 года друкаваўся як журналіст. У 1949 годзе адбыўся яго літаратурны дэбют – надрукаваў у «Гродзенскай праўдзе» першыя свае апавяданні «У той дзень», «У першым баі» (па-руску).

У 1949 годзе Васіль ажаніўся з Надзеяй Андрэеўнай Кулагінай, супрацоўніцай «Гродзенскай праўды», выпускніцай філфака Гарадзенскага педінстытута. Неўзабаве ў гэтым годзе быў набраны ў войска і адправіўся з жонкай на месца прызначэння – на Далёкі Усход. Дэмабілізаваўся другі раз у 1955 годзе і вярнуўся з жонкай і сынам Сяргеем у Гродна. Тут ізноў працаваў у «Гродзенскай праўдзе» (1956-1972). У 1972-1978 гадах быў сакратаром Гарадзенскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў БССР. Тут нарадзіўся яго другі сын Васіль. У Гродне Васіль Быкаў вырас як вядомы на ўвесь свет майстра слова, аўтар аповесцяў «Жураўліны крык» (1960), «Здрада» (1961), «Трэцяя ракета» (1962), «Пастка» (1962), «Альпійская балада» (1964), «Мёртвым не баліць» (1965), «Праклятая вышыня» (1968), «Круглянскі мост» (1969), «Сотнікаў» (1970), «Абеліск» (1971), «Дажыць да світання» (1973), «Воўчая зграя» (1974), «Яго батальён» (1975), «Пайсці і не вярнуцца» (1978), апублікаваных у перакладах на многія мовы свету. У гарадзенскі перыяд творчасці выйшлі зборнікі яго апавяданняў: «Ход канём» (1960), «Адна ноч» (1965). Гарадзенскі драматычны тэатр паставіў на сваёй сцэне ягоную драму «Апошні шанец» (1974). У Гродне Васіль Быкаў напісаў сцэнары да кінафільмаў «Трэцяя ракета» (1963), «Альпійская балада» (1966), «Дажыць да світання» (1975), «Воўчая зграя» (1976), «Доўгія вёрсты вайны» (3 серыі, 1976), «Абеліск» (1977). У 1967 годзе ў Беларускім оперным тэатры былі пастаўлены па матывах «Альпійскай балады» аднайменны балет.

У Гарадзенскім педінстытуце, на філалагічным факультэце, абмяркоўвалася кожная новая аповесць Васіля Быкава, найчасцей – з удзелам аўтара. Творчыя здабыткі пісьменніка былі адзначаныя ў гэты час Рэспубліканскай літаратурнай прэміяй імя Якуба Коласа (1964), Дзяржаўнай прэміяй СССР (1974), Дзяржаўнай прэміяй БССР (1978). На афіцыйным узроўні ўрачыста ўшаноўвалі Васіля Быкава ў сувязі з прысуджэннем яму Дзяржаўнай прэміі СССР (у Палацы культуры хімікаў) і ў сувязі з 50-годдзем з дня нараджэння (у Палацы культуры тэкстыльшчыкаў) у 1974-м. Разам з тым Васіль Быкаў перажыў у Гродне няспынныя літаратурна-крытычныя і маральна-грамадскія абвінавачванні ў друку (менскім і маскоўскім), на розных сходах і нарадах па ідэалогіі.

У 60-я – першай палове 70-х гг. у Гродне і на Гарадзеншчыне ладзіліся шматлікія дэкады, тыдні, дні літаратуры, абласныя літаратурныя семінары – і гэтаму спрыяў высокі аўтарытэт Быкава-пісьменніка. Тут пабывалі многія пісьменнікі з Менску, а таксама з многіх рэспублік тагачаснага СССР, з Польшчы, з Балгарыі, з Чэхаславакіі ды інш. Васіль Быкаў ужо тады наведаў многія краіны свету, і імя яго непарыўна звязвалася з горадам над Нёманам.

У 1978 годзе Васіль Быкаў пераехаў у Менск. Прыязджаў у Гродна нярэдка, але гэта былі прыватныя паездкі (наведваў сына Васіля), якія не афішаваліся. Толькі аднойчы – у 1994 годзе – пісьменнік выступіў у Гарадзенскім універсітэце, у актавай зале факультэта беларускай філалогіі і культуры, і «Гродзенская праўда» адвяла гэтай падзеі цэлую паласу матэрыялаў.

**Аляксей Пяткевіч, прафесар**

### З кнігі «Доўгая дарога да дому»:

**«...Аднойчы паехалі з начлегам на старыцу пад Масты, ды на юшку налавіў драбязы мой Вася, у нас жа з Валянцінам (Чэкіным – рэд.) нічога не ўзялося. Калі не рыбалка, дык рака нас захапляла, і аднойчы мы запрасілі з Менску сяброў. Прыехалі Матукоўскі, Гілевіч, Бураўкін з заўсёды юнаю Юляй, мы знайшлі непадалёк на беразе ўтульны лужок і наладзілі пачостку. З шашлыкамі. Рыба ў Нёмане ўпарта не хацела лавіцца, мусіць, яе там і не засталося, асабліва як вышэй па цячэнні збудавалі азотна-тукавы камбінат. Казалі – нічога страшнага, сьцёкі ачышчаюцца. Але аднойчы раніцай на прычале мы ўбачылі мноства рыбін, што плылі ўгару жыватамі; на мэталёвых лодках да паловы аблезла фарба. Да рыбалкі я хутка астыў, зразумеўшы, што рыба мяне не любіць...»**

# Апанасу Цыхуну from Vasil Bykau

**Апанас Цыхун, вядомы гарадзенскі краязнаўца і настаўнік, пазнаёміўся з Быкавым напрыканцы 50-х гадоў, калі Васіль Уладзіміравіч ужо настала жыў у Гродне.**

– *Многія пасля вайны імкнуліся пераехаць у Заходнюю Беларусь,* – успамінае Апанас Цыхун. – *Тут свабадней дыхалася, існавалі творчыя асяродкі.*

Быкаў і Цыхун сустракаліся ў рэдакцыі «Гродзенскай праўды», а таксама на паседжаннях літаратурнага аб'яднання, якія праходзілі тады ў доме Элізы Ажэшкі.

– *Выпіваць Быкаў не любіў. Так, чарачку – і норма... У Бога верыў. У царкву – не, не хадзілі мы тады. Але на Вялікдзень, на Каляды абавязкова збіраліся. То ў «Гродзенскай», то так дзе-небудзь. Вось тады і прапускалі па адной...*

Сябрам літаб'яднання даводзілася выступаць у навучальных установах. Часцей за ўсё сустрэчы з пісьменнікамі і паэтамі адбываліся ў раённых школах: Парэцкай, Грандзіцкай, Ласосенскай ды іншых. Больш за ўсё з гэтых паездак запомніўся Апанасу Пятровічу, як ён сам кажа, «сумесны начлег» з Быкавым:

– *Літаратурны вечар у Селіванаўскай школе скончыўся позна, і нам давялося там пераначаваць. Ложкаў было мала, таму спаць мне давялося разам з Васілём Уладзіміравічам.*

Пасля іншага літаратурнага вечара Васіль Быкаў упершыню пабываў у Апанаса Пятровіча дома:

– *У Азёрскай школе мы з Васілём Быкавым выступалі ўдвох, іншыя чамусьці не прыехалі. Гэта быў 1964 год, калі ўбачыла свет ягоная найвыдатнейшая аповесць «Альпійская балада». Твор меў вялікі поспех, таму на сустрэчу з Быкавым прыйшлі і маладыя, і старыя жыхары Азёраў ды навакольных вёсак. Людзей было так многа, што нават самая вялікая зала не змясціла ўсіх.*

Звычайна нешматслоўны Быкаў у той вечар гаварыў багата. Распавядаў пра вайну, пра родную вёску, пра бацькоў. Пасля выступаў Цыхун, які чытаў вершы. Напрыканцы вечара адміністрацыя школы арганізавала «прыём»:

– *Вядома, была і выпіўка, як любіў казаць нябожчык паэт Міхась Васілёк, «зямелькі роднай горкі сок». Затым загадчык школьнай гаспадаркі на службовай машыне даставіў нас, так бы мовіць, на месца жыхарства. Вось тады Васіль і завітаў у маю хату... Раней, на літаратурным вечары, мы нагаварыліся пра што толькі можна, таму ў мяне ўжо доўга не сядзелі.*

Пасля таго, як у 1965 годзе пабачыла свет аповесць «Мёртвым не баліць», Быкавым усур'ёз зацікавіліся спецслужбы. Выклікалі на размовы, запалохвалі.

– *Я сустрэў яго... Кэдэбісты яго так прыціснулі, што ён аж галаву павесіў,* – узгадвае Апанас Цыхун. – *За гэтую кніжку яго ледзь не з'елі. Ён страшна перажываў. А Карпюка як ганялі... Быкаў беспартыйны быў, а Карпюка з партыі выключылі, не давалі працаваць. Да ўсіх нас тады чапляліся, палохалі, нават вокны білі. Але Быкаў перажыў гэта.*

За некалькі гадоў да пераезду ў Менск Быкаў падарыў Цыхуну некалькі сваіх кнігаў. «Афанасію Пятровічу Цыхуну з найлепшымі сяброўскімі пажаданнямі. 15.XII.72», «Са шчырасцю і найлепшымі пажаданнямі. 6.VIII.74» – кнігі, падпісаныя рукой пісьменніка, Цыхун захоўвае дагэтуль як найкаштоўнейшую рэліквію.

– *Яму наканавана было стаць пісьменнікам. Гэта была яго і асноўная праца, і адпачынак,* – распавядае Апанас Пятровіч. – *На жаль, першая жонка яго не разумела. Быкаў неяк скардзіўся мне: «Я пішу, а яна гэтаму ніякой ацэнкі не дае». Яна сама была руская і не прызнавала беларускай мовы.*

***– Прозвішча ў цябе нейкае рускае – «Быкаў», – жартаваў я часцяком над ім. – Па-беларуску было бы «Быкоўскі».***

***– Беларус я. Карэнны. Бык! – смяяўся ён у адказ.***

З сярэдзіны 90-х, калі зноў распачалося цкаванне Быкава, ён з'ехаў з краіны. Аднак усе гэтыя гады з Нямеччыны, Фінляндыі, Чэхіі родныя і сябры пісьменніка атрымлівалі канверты з надпісам «from Vasil Bykau».

**«...Цісну Вашую руку з удзячнасцю за тое, што ёсць такія ветэраны-патрыёты,** – пісаў у 1997 годзе Быкаў Цыхуну, – **тым болей на Гарадзеншчыне, якая і ў маім сэрцы займае самае пачэснае месцейка. Дай Вам Бог шмат гадкоў пад цёплым сонейкам! Абдымаю Вас – В. Быкаў».**

– *Думаеце лёгка яму там жылося ў немцаў, якіх ён біў падчас вайны? Іншага выйсця папросту не было ў яго. Застаўся бы тут... Канешне, ён мог атрымаць пасаду, але для гэтага давялося бы пайсці на паклон. Стаць халуём за кавалак хлеба нібы сабака. Але Быкаў меў гонар.*

Апошнія радкі ад Васіля Быкава гарадзенскі краязнаўца атрымаў сёлета на свой дзень народзінаў – 5 мая:

**«Дарагі Апанас Пятровіч,**

**дазвольце павіншаваць Вас з сонечным Днём Вашых Народзінаў, дай Бог Вам добрага здароўя і яшчэ шмат дзён на Божым свеце. Вялікае і шчырае віншаванне шле Вам Ваш аднагодак Барыс Кіт, а таксама мая жонка Ірына.**

**Мы памятаем Вас...**

**абдымаю,**

**Ваш – Васіль Быкаў».**

– *Колькі ў Васіля было знаёмых на Радзіме – тысячы. А мяне не забываў, памятаў!* – гаворыць Апанас Пятровіч. – *Гэтае віншаванне ад яго, гэтую капэрту нікому ні за якія грошы не аддамо. Перачытаю ў чарговы раз – і адразу на душы святлей становіцца.*

Сам Апанас Цыхун неаднойчы пісаў Быкаву і на чэскі, і на нямецкі адрасы, але лісты, чамусьці пакрэсленыя чорным маркерам, увесь час вярталіся. Месяц таму Цыхун адправіў Быкаву, ужо ў Менск, віншаванні з нагоды дня народзінаў пісьменніка.

– *Не вярнуўся на гэты раз ліст, значыць дайшоў. Вось толькі не даведацца мне ўжо ніколі, ці паспеў ты, Васіль, яго прачытаць?*

***З Апанасам Цыхуном сустракалася Юлія Дарашкевіч***

Шаноўны Апанас Пятровіч, найперш – з Новым годам Вас і святочнымі калядамі! Дзякуй Вам за Вашы кнігі і віншаванні, і далучаюся да высокіх і справядлівых слоў Ніла Гілевіча – Вы іх заслужылі. Як толькі сын Ваш перадаў кніжкі, я іх прачытаў і захацеў патэлефанаваць Вам, але Ваш Генадзь даў мне няправільны нумар тэлефона, і мае спробы ўсе аказаліся няўдалыя. Ну але [illegible] – цісну Вашую руку з удзячнасцю за тое, што Вы робіце і наогул за тое, што ёсць такія ветэраны-патрыёты. Тым болей на Гарадзеншчыне, якая і ў маім сэрцы займае самае пачэснае месцейка. Дай Вам Бог шмат гадкоў пад цёплым сонейкам!

Абдымаю Вас. – В. Быкаў

***Віншавальная паштоўка на адрас Апанаса Цыхуна ад Васіля Быкава з Фінляндыі***

**З кнігі «Доўгая дарога да дому»:**

**«... Дома на Кашавога, яшчэ было ня позна, бліскаў тэлевізар, і раптам – удар у акно, шыбіна – у друз, на падлозе кавалак цагліны. Я выбег на вуліцу – нідзе нікога. Назаўтра пасьля невясёлага роздуму пайшоў у міліцыю, напісаў заяву. Пасьля змусілі перапісаць, сказалі, будуць расьследаваць. Нейкі час чакаў выніку, пасьля перастаў чакаць. Пачаў чакаць іншых вынікаў, якія і пасьледавалі...»**

# Лужыны на Савецкай плошчы

**З Васілём Быкавым сённяшні прафесар кафедры беларускай культуры Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы Сяргей Габрусевіч пазнаёміўся ў 1958 годзе, калі даслаў у «Гродзенскую праўду» адзін са сваіх першых вершаў. Верш надрукавалі, а літкансультант газеты Васіль Быкаў нават адпісаў паэту-пачаткоўцу ліст, у якім заахвочваў да пісьменніцтва. Паступіўшы ў Гарадзенскі педінстытут, Сяргей Габрусевіч часта заходзіў да Быкава параіцца, паразмаўляць. Ён прыгадаў нам тры гісторыі, звязаныя з пісьменнікам.**

## Гісторыя першая: «Белае віно»

Здаралася, мы сустракаліся з Васілём Уладзіміравічам увечары на вуліцах Савецкай ці Ажэшкі: тады, на пачатку 60-х гадоў, у Гродне захоўвалася традыцыя шпацыраў па горадзе пасля працы. Пры сустрэчы Васіль Уладзіміравіч вёў мяне ў закусачную, дзе прадавалі на разліў белае сухое балгарскае віно. Мы выпівалі па шклянцы і закусвалі цукерачкай. Заўсёды за грошы Васіля Уладзіміравіча. Усе мае спробы разлічыцца ён адхіляў тэзай – «будзеш разлічвацца, калі будзеш зарабляць больш за мяне».

***Васіль Быкаў (60-ыя гады, фота з сямейнага архіву Быкавых)***

## Гісторыя другая: «Савецкая роўнядзь»

Мы часта размаўлялі пра тагачасны беларускі і маскоўскі літаратурны працэс, праблемы Аляксандра Твардоўскага і ягоны «Новый мир», пра жорсткасць і аднастайнасць палітычных і ідэалагічных установак тагачаснай дзяржавы і КПСС. Аднойчы, ідучы па Савецкай плошчы, Васіль Уладзіміравіч сказаў з горыччу: «Ну вось, глядзі – плошча роўная, заасфальтаваная, а нядаўна прайшоў дождж, і бачыш, колькі на гэтай роўнай плошчы лужынаў! А ў нашай ідэалогіі, нашай палітыцы, нашай літаратуры не дапускаецца, што ёсць лужыны, нейкія няроўнасці. Жыццё не магчыма зніведяваць цалкам».

## Гісторыя трэцяя: «Рэцэнзія»

Пасля выхаду аповесці «Мёртвым не баліць» Васіль Уладзіміравіч вытрымаў бадай найстрашнейшы ціск з боку літаратурных і партыйных функцыянераў. Тым, хто дырыжаваў гэтым цкаваннем, было вельмі выгодна, каб моладзь, студэнцтва асудзілі аповесць. Важна было, каб словы ганьбы выказалі гарадзенцы, якія жывуць побач з Быкавым. Магчыма, таму да мяне тры разы звяртаўся супрацоўнік КДБ з прапановай напісаць адмоўную рэцэнзію на аповесць «Мёртвым не баліць». Для маладога чалавека, студэнта і вершапісца, прапанова гэтая была вельмі спакуслівай. Аб'ём рэцэнзіі не абмяжоўваўся, давалася гарантыя, што яна будзе апублікаваная ў любым літаратурна-мастацкім часопісе, якія тады друкаваліся ў БССР – у тым ліку ў «Полымі» і «Маладосці»!.. Я адмовіўся. Да гонару гарадзенцаў не знайшлося аніводнага чалавека, які бы ўзяўся выканаць гэтую справу. Але разгромныя рэцэнзіі на аповесць – перадрукоўкі з менскіх або маскоўскіх выданняў – выпусціла родная газета пісьменніка «Гродзенская праўда».

***Занатавала Алеся Сідлярэвіч***

# Усё пачыналася ў Гродне

**З кнігі «Доўгая дарога да дому»:**

**«...У канцы школьнага навучальнага году здарыўся канфліктны выпадак з маім малодшым сынам. Патэлефанавала дырэктарка школы, дужа прынцыповая дама з адметным прозьвішчам Сукачова і тэрмінова запатрабавала мяне ў школу. Я не пайшоў, спярша папытаўся ў свайго Васіля, што ён натварыў? Ён натуральна, аднекваўся, нічога. Але спакваля стала вядома. На ленінскім уроку ў 4 клясе, калі гаворка ішла пра Ільліча, мой сын сам сабе буркнуў у рыфму: Ільліч – стары хрыч. Тое ўчула яго пільная суседка і тут жа падняла руку, каб абвясціць тое настаўніцы. Настаўніца з жахам падняла сына, які вядома, не прызнаўся. Справа дайшла да дырэктара, далажылі ў гаркам і яшчэ куды. Разьдзмулі палітычны скандал, у мяне запатрабавалі пісьмовага тлумачэньня. Шкадуючы сына, якому пагражала выключэньне, я нешта пісаў, апраўдваўся сам і апраўдваў яго. Увогуле тое было брыдка і ганебна.»**

**Амаль 25 гадоў іх лёсы ў Гродне ішлі паралельна – літаратуразнаўцы Аляксея Пяткевіча і літаратара Васіля Быкава. У 1971 годзе Быкаў даваў Пяткевічу рэкамендацыю ў Саюз пісьменнікаў Беларусі. А той аднойчы рабіў моўныя праўкі быкаўскай аповесці «Абеліск». Прафесар кафедры беларускай культуры Гарадзенскага дзяржаўнага універсітэта імя Янкі Купалы Аляксей Міхайлавіч Пяткевіч успамінае гады, якія лічыць для сябе вялікай школай:**

***– Як вы лічыце, што набыў Быкаў як пісьменнік падчас гарадзенскага перыяда жыцця?***

– Быкава сёння называюць прарокам беларускай нацыі, вялікім нацыянальным ідэолагам – гэта ў прынцыпе слушна! Але ён не адразу гэткім стаў. Менавіта ў гарадзенскі перыяд жыцця Быкаў паступова фармаваўся як беларускі нацыянальны ідэолаг, не без уздзеяння тутэйшага асяроддзя. А гэтае ўздзеянне – гэта і Данута Бічэль, і Ларыса Геніюш, і Алесь Белакоз.

Быкаў, калі прыехаў, пэўны працяглы час гаварыў па-руску, мог нават выступіць перад аўдыторыяй як пісьменнік на рускай мове – што мы не пакідалі па-за ўвагай. Усё жыццё пісаў па-беларуску, але першыя апавяданні, якія ён друкаваў у Гродне, былі напісаныя па-руску. Мова беларуская давалася Быкаву цяжка. Ён ведаў яе толькі з сям'і ды са школы. А потым была вайна, пасля ізноў войска – толькі рускамоўнае асяроддзе. А каб ведаць мову, трэба пастаянна чуць яе, ці карыстацца ёй... Ён спачатку не надта і паддаваўся нашаму ўплыву, таму што лічыў нацыянальнае пытанне не самым важным. Самае важнае, ён лічыў, – сацыяльнае. Помню, ён казаў, што трэба зрабіць так, каб не прыйшоў матрос і не сказаў: «Хватит, караул устал». Так што нацыянальнае яго фармаванне адбывалася паступова, не так проста.

***– З кім у Гродне найбольш блізка сышоўся Быкаў?***

– З Карпюком. Яны не маглі не пасябраваць: абодва яркія, маладыя, таленавітыя. Звычайна Карпюк быў тэмай для яго жартаў. Карпюк, як вядома, са звычайнага пункту гледжання, быў трошкі дзіўнаваты, катэгарычны, у скрайнасці мог укінуцца. А Быкаў умеў тонка прыкмеціць ўсялякія недарэчнасці і пасмяяцца з іх. Перабольшваў, канешне... Напрыклад, пра тое, як Карпюк стварыў таварыства цвярозасці і шукаў хаўруснікаў. Ён быццам бы прыехаў у Маскву да генерала Гарбатава, дзесьці Гарбатаў выказаўся, што ён не супраць, каб арганізавацца цвярозым людзям. Ну, хто ведае, як там было, але Быкаў апавядаў так: вітаючы ў сваім маскоўскім кабінеце Карпюка, Гарбатаў адкрыў шафку і дастаў графінчык!


УДОСТОВЕРЕНИЕ № 20
Предъявитель сего тов.
Быков
...едакции газеты
...ская правда"
Удостоверение выдано
Личная подпись
Отв. редактор
Отв. секретарь


Аляксей Карпюк і Васіль Быкаў (60-ыя гады)

Ці вось яшчэ. Ішлі яны з Карпюком па беразе Нёмана. Раптам нейкі малы на касагоры дрэва невялікае разгойдаў і ці зламаў яго, ці вырваў. Карпюк са страшэнным імпэтам пабег па гэтым касагоры наверх, каб пакараць малога, які ўчыніў шкоду прыродзе. Той кінуўся наўцёкі. І Васіль казаў, што Карпюк бег за ім ажно да цэнтра горада, пакуль не згубіў! Наўрад ці так было. Ну, можа пакрычаў на малога... Ён многім апавядаў тыя гісторыі, а Карпюк толькі пасміхаўся.

***– Чым для яго была праца ў «Гродзенскай праўдзе», з якой былі звязаныя 16 гадоў яго жыцця?***

– Доўгі час ён вёў літаратурную старонку ў «Гродзенскай праўдзе». Разбіраў вершы маладых, іх літаратурную творчасць, дасылаў адказы, рыхтаваў да друку, рабіў агляды. Гэта ж таксама пэўная школа: вучыць другіх, аналізаваць, глядзець, чытаць.

Але «Гродзенская праўда» не была добрай газетай, тым больш як абласная газета ў савецкія часы – наўрад ці яна магла чаго-небудзь Быкава навучыць. Ён не надта любіў гэтую работу, скардзіўся, што яна адбірае шмат часу. Заробак там быў невялікі, ды Быкаў меў такія ганарары ў 60-я гады, што ў афіцыйнай працы дзеля заробку ён не меў патрэбы. Так прынята было: рэдка калі пісьменнік не працаваў дзе-небудзь. Быкаў шмат ездзіў і таму часта пакідаў гэтую працу. З гэтым у рэдакцыі лічыліся.

Яго часта запрашалі на заводы, на сустрэчы з калектывамі, студэнцтвам. Але ён не любіў казённасці, прамоў, не любіў сам выступаць. Звычайна яго выступы былі неэфектнымі. Ён не ўмеў прыгожа, складна прамаўляць: гаварыў марудна, паволі, яго сінтаксіс быў не зусім складны, разбіты такі, з псіхалагічнымі паўзамі. Для масавай публікі патрэбны нейкі рытарычны эфект, а ён не валодаў гэтым і не стараўся авалодаць. Аднак адначасова гаварыў змястоўна, разумна, неардынарна.

***– Менавіта ў гарадзенскі перыяд Быкаў сфармаваўся як пісьменнік, тут пачаліся ідэалагічныя цкаванні яго.***

– Па-сутнасці, з першай аповесці «Жураўліны крык» пачалася крытыка ідэалагічнага кшталту. Масавае шальмаванне ішло хвалямі, звычайна пачыналася пасля кожнага надрукаванага твору. Па заводах і вучэльнях ладзіліся партыйныя, прафсаюзныя сходы дзе ішоў «разгром» аповесці. Яго не запрашалі на гэтыя сходы, але людзі расказвалі, як яны адбываліся. Канешне, ён пераймаўся гэтым, ён быў чаловекам, як і ўсялякі вялікі мастак, з абвостранай унутранай рэакцыяй.

Калі знялі з працы і выключылі з партыі Барыса Клейна, Быкаў узрушана расказваў мне, як Клейну прад'явілі запісаны матэрыял – запісаны ў рэстаране, дома, у парку. Клейн яму распавёў пра тое, што ён ўсё адмаўляў, а яму – калі ласка, вось. І Быкаў быў страшэнна ўзрушаны, казаў: «Што робіцца, як можна жыць, калі такое татальнае і тэхнічна дасканалае сачэнне за чалавекам?!» Мы доўга хадзілі, яму трэба было гэта выказаць.

Ён ведаў, што і за ім таксама сочаць. Памятаю, аднойчы ён мне патэлефанаваў і папрасіў прыйсці, што было даволі рэдка. Ён жыў тады на Кашавога – сённяшняй Траецкай – каля Дома творчасці. Я прыйшоў. Ён правеў мяне ў пакой і паказаў пабітую шыбу: з вуліцы нехта кінуў камень. Я ўбачыў тады па яго вачах, што звычайна стрыманы, цвёрды, непрабіўны Быкаў не на жарт усхваляваны і знарок паклікаў мяне, каб выказаць абурэнне, з кім-небудзь пабыць. Ён не мог дакладна вызначыць, хто тое ўчыніў: ці нехта падасланы, ці хтосьці з электарату, – але ўсе зводзілася да адпаведных службаў.

Да Быкава набіваліся ў сябры многія. Некаторыя з прагматычных меркаванняў: быць каля славутага пісьменніка блізка – гэта імпанавала. Хаця, напэўна, былі побач людзі, якія збіралі матэрыял пра яго для карных органаў. Гэтага не магло не быць. Я помню, мяне выклікалі, угаворвалі на гэтую ролю. Я Быкаву распавёў, а ён: «Ну, не ты першы». Выклікалі і Юрку Голуба, і Вольгу Іпатаву – яны таксама катэгарычна адмовіліся. Але ж нехта, мусіць, не адмовіўся...

Цкаванне яго мучыла, ён пакутаваў і гаварыў пра гэта, гаварыў з болем. Канешне, часцей іранізаваў, але інтанацыя болю прарывалася.

***– Яго цкавалі, але заўседы друкавалі...***

– Так, выглядае парадоксам! Гэта – дзіўная савецкая рэчаіснасць. Не толькі друкавалі, яму далі прэмію літаратурную, потым дзяржаўныя прэміі Савецкага Саюза, БССР – у гарадзенскі перыяд. Ужо ў менскі перыяд далі «народнага» і гэтак далей... Я думаю, што нельга было без гэтага: каб ён знаходзіўся тут пад уціскам, дык яго з большай цікавасцю ўспрымалі бы на Захадзе.

З беларускіх пісьменнікаў Быкаў быў найбольш уплывовы ў Маскве. Гэта быў пісьменнік нумар адзін, пісьменнік светавай вядомасці, перакладзены на многія мовы свету. А хто яшчэ ў Беларусі? Ну, Шамякіна перакладалі, але ў асноўным у СССР. Ну, Танк, Мележ – але гэта не тое. Быкава ў Маскве паважалі, і з яго меркаваннем лічыліся. Ён часта туды ездзіў і звычайна многа ведаў з жыцця з цэнтра, дзе ўсё ідэалагічна кантралявалася. Цкаванне Быкава ішло больш з Масквы – але, гэта вядома, вельмі часта яго друкавалі спачатку там, а тады ўжо ў Беларусі, бо напачатку рабіць гэта тут не асмельваліся.

***– Ці ўласцівая была яму самацэнзура ў творчасці?***

– Цэнзар унутры ў яго быў, канешне, як і ва ўсіх савецкіх пісьменнікаў. Такія выпадкі былі, ён расказваў пра іх – калі быў вымушаны выцінаць цэлыя эпізоды, таму што разумеў, што ў першапачатковым выглядзе не пройдзе. Гэтак, дарэчы, рабілі ўсе.

Не ведаю, ці была гэта праява самацэнзуры. Магчыма, толькі імкненне ўдасканаліць твор. У аповесці «Пастка» асноўны герой лейтэнант Клімчанка, які ў час атакі трапляе да немцаў у палон, быў адпушчаны немцамі. Яны проста сказалі яму: «Ідзі». Ведалі, што гэта ўжо кончаны чалавек. Ён дайшоў да сваіх акопаў, але там убачыў вочы людзей... Да яго прыйшоў чалавек са штабу з пісталетам. Ён зразумеў, што яму канец, што гэта – пастка. У першым варыянце ў Быкава было так, што Клімчанка нацэльвае аўтамат у свае грудзі і страляе. Пасля Быкаў паправіў (У апошні момант камандзір роты не дае лейтэнанту застрэліцца і забірае яго ў смершаўца: «У мяне зараз атака».).

Ён прыйшоў у літаратуру пазіцыйна сфармаваным. Адназначна, у поўнай меры. Ён абсалютна не прымаў гэтага рэжыму. Яго светапогляд склаўся на вайне. Ён не любіў расказваць пра гэта, але час ад часу пэўныя эпізоды ў размовах прыгадваў. І гаварыў, што калі б ён напісаў усё, што было насамрэч – ніхто бы ніколі не паверыў, ніякі Галоўліт не прапусціў бы! І ніхто бы ніколі гэтага не надрукаваў. І яго, як чалавека сумленнага, гэта настолькі ўзрушвала, што выклікала адмаўленне ўсёй савецкай сістэмы.

***– Ён не быў адкрытым чалавекам?***

– Не. Ён не быў адкрытым. Ён не любіў гэтак званых шчырых размоваў, вылiванняў душы, спавядальнасці... Ён мог сказаць колькі фразаў і – шматкроп'е! Не быў асабліва гаваркі – любіў паслухаць, уставіць рэпліку, нешта распавесці. У кампаніі ён не навязваў сябе ніколі. Але калі ўжо нешта гаварыў, дык гэта было цікава, вымушала задумацца. Памятаю, неяк сядзелі ў Дануты Бічэль і спыталі яго: «Васіль, чаму ў цябе няма машыны? Чалавек ты забяспечаны, усе вакол машыны маюць». – «Ат, навошта тая машына? Механічнае, мёртвае стварэнне – вось каб конь, то я бы яго купіў».

Людзей, якім ён давяраў, якіх лічыў блізкімі сабе, Быкаў ахвотна, шчыра клікаў у хату, зайсці на каву, пагаманіць. Кватэра была ўтульная, але я не магу прыгадаць, каб былі рэчы, якія ён зрабіў сваімі рукамі. Сям'і з ім, думаю, было цяжка. Сям'і чалавек павінен сябе аддаваць – аддаваць жонцы, дзецям, дому, сямейным традыцыям і праблемам. А Быкаў быў сам па сабе. Хутчэй – яму трэба было аддзяліцца, пабыць у сабе, у цішыні, адзіноце. Усёткі ён сябе аддаваў літаратуры. Гэткі чалавек для сям'і няўдзячны – гэта ясна.

Ён не быў адкрыты, і я магу сказаць, што для мяне яго ад'езд быў нечаканы...

***Размаўляла Ірына Чарняўка***

# Апошняя кніга

**«Доўгая дарога дадому»... Гэтую кнігу, якую Васіль Быкаў напісаў у Франкфурце-над-Майнам, у Нямеччыне, я падзяліў бы храналагічна на дзве паловы: «далітаратурную» і літаратурную. Альбо яшчэ так: першая – да вайны, вайна і пасля вайны, і другая – пра «літаратурны шлях».**

Вайна 1944-га і 1945-га нагадвае ў Быкава 1941 год: пяхота, «тая шэрая пяхота» з рэдкімі гарматамі і коні як адзіны транспартны і цяглавы сродак. Тая пяхота сядзіць на адной пярловай кашы, бо амерыканская тушонка асядае недзе на лініі штабоў. Людзі гінуць як мухі, бо не стае снарадаў задушыць нямецкія кулямёты – а снарады ізноў асядаюць на лініі штабоў, бо няма коней для падвозу, бо тыя коні гінуць часцей за людзей. Свае танкі Т-34 з гарматай 76 мм бездапаможныя супраць нямецкіх T-IV Tigr з гарматай 88 мм і самаходак Elefant. Палявыя гарматы ЗИС-3 калібрам 76 мм браню «тыграў» не прабіваюць – трэба цэліць у гусеніцы, а оптыка ў іх... горшая за даваенныя гарматкі 45 мм, ад якіх болей карысці, бо з «саракапяткі» можна пацэліць у тую самую гусеніцу... Немцы душаць тую батарэю, якую толькі захочуць, і ўтрымліваюць усялякую вышыню, колькі захочуць. А над стэпам вісяць парамі дзяжурныя Ю-88 альбо Ме-110 – і забіваюць у грунт кожную гармату альбо фурманку. Савецкіх жа знішчальнікаў – няма. А на зямлі... няма тэлефоннага дроту, і ўся сувязь... пасыльнымі, якія гінуць дзесяткамі, бо і на паасобных жаўнераў (!) палюе нямецкая авіяцыя. Тры тыдні ў шпіталі – гэта ўжо над Дунаем! – быў паранены лейтэнант Быкаў, і, вярнуўшыся ў полк, не сустрэў аніводнага (!) знаёмага афіцэра, гэтаксама аніводнага (!) жаўнера са сваёй батарэі. Быў полк – няма таго палка. А прайшлі з баямі нейкіх 20 км...

Суадносіны стратаў – дзесяцёх нашых за аднаго немца. Гэта лічыцца нормай нават для «кантралёраў» са СМЕРШу, бо ў «няўдалых баях» бывае горай. І ўсё-ткі – чаму немцы не наступаюць, але адступаюць? Бо ваююць з верасня 1939 года супраць усяго астатняга свету, і немцаў таксама засталося няшмат. Таму няма суцэльнай лініі абароны. Таму адныя аддзелы Чырвонай Арміі гінуць на «праклятых вышынях», але другія... «просачиваются» паміж тымі вышынямі – і тады немцы ўначы адыходзяць на 1-2 км. І той камандзір – разумны ваяка, хто не атакуе «праклятыя вышыні» і не кладзе людзей, але... «обозначает» альбо імітуе атаку і чакае, калі немец адступіць сам, а ён адрапартуе «высота взята!» – і атрымае ордэн сабе і медалі людзям. Вось і ўся тактыка...



*Лейтэнант Васіль Быкаў*

Скончыў ваяваць артылерыст Васіль Быкаў ажно ў Аўстрыі, на рацэ Інс. Наваяваў «дзве зорачкі: адную на грудзі, другую на плечы», – але так і застаўся лейтэнантам, адзначаным Ордэнам Чырвонай Зоркі; быў двойчы паранены (адзін асколак гэтак і насіў у целе ажно да самай смерці) і... адзін раз пахаваны – бацькам у вёску Бычкі на Вушаччыну прыйшла «похоронка». З канцом вайны полк не расфармавалі і нікога не дэмабілізавалі, але... перакінулі на прадмесце Сафіі. Праз год полк вывелі ў Нікалаеў Адэскай ваеннай акругі. Тут лейтэнант Быкаў шчасліва назіраў з акна шпіталя інспектарскую праверку маршала Георгія Жукава: той загнаў усіх афіцэраў у спартыўны гарадок і загадаў... скакаць праз «кабылу» – маладзейшыя яшчэ неяк справіліся, старыя і сівыя бяздарна пападалі. Ваяка-маршал затыкнуў канцы шынэля за пас, разбегся і скочыў на маршальскім хлебе нібы малады, пасля чаго прачысціў глотку крыкам пра разгільдзяйства і трыбунал, сеў у «віліс» і паехаў.

– Дурак ты, хоть и Жуков, – сказаў яму ўслед стары і белы, як лунь, начфін палка.

З армейскіх казармаў лейтэнант Васіль Быкаў звольніцца здолеў толькі ў маі 1948 года...

У Гродна Быкаў прыехаў, бо хацеў у Беларусь, але не хацеў у калгасную вёску бацькі і маці – а Менск і ўсе іншыя месты на Ўсходзе былі разбітыя да руінаў. Што праўда, па кароткім побыце тут (мастацкія майстэрні, потым карэктар у «Гродзенскай праўдзе») трапіў... ізноў да Савецкай Арміі – і заперлі яго ажно на востраў Кунашыр, насупраць японскага Хакайда, дзе саветы... рыхталіся адбіваць амерыканскі дэсант.

Канчаткова дэмабілізаваўся Быкаў толькі напрыканцы 1955 года. І вярнуўся ізноў у Гродна, у сакратарыят «Гродзенскай праўды»; пісаць і друкавацца пачынаў... з газетных фельетонаў, якія нават выдаў у 1956 годзе ў бібліятэцы «Вожыка» ў Менску.

«Правінцыял» Быкаў незаўважна для сябе паклаў пачатак бясконцаму канфлікту з правінцыяй... тым болей, што «областной центр» Гродна быў насамрэч страшнаватым мястэчкам на 30 тысяч чалавек у трыццаці вулічках і сотні завулкаў, дзе польскі брук быў ужо разбіты, а савецкі асфальт яшчэ не пакладзены. І не было каналізацыі. А дзе няма каналізацыі – там няма цывілізацыі...

Цывілізацыя паціху пачала з`яўляцца ў Гродне толькі з разбудовай канцэрна «Азот» у 60-я гады XX стагоддзя, бо тая разбудова пацягнула разбудову інфраструктуры і будаўніцтва ўвогуле. Але савецкая цывілізацыя з`яўлялася толькі ўскраінай цывілізацыі светавай. Альбо – у местачковую правінцыю прыйшла правінцыя індустрыяльная, дала зарабіць, падняла «на недостижимую высоту» беларускую пыху. Мастацкае друкаванае слова тут было без патрэбы.

Тагачасная Беларусь на дадатак разглядалася ў ЦК КПСС і КДБ СССР зусім не як «партызанская рэспубліка», але як «бывшая оккупированная территория», дзе поўна скрытых «польскіх паліцаяў» і «нямецкіх агентаў».

Быкаў і яго калегі былі патрэбныя ў Гродне адным «палітрукам-асаднікам» – у якасці «недозрелого местного элемента с его неправильным языком»...

У Менску Быкава больш-менш гладка друкаваў толькі месячнік «Маладосць», але... не «партыйнае» «Полымя», адведзенае тагачасным «жывым» класікам. У Менску Быкава не любілі і не любяць па сённяшні дзень. Асноўных грахоў было два: па-першае, не быў у партызанах у «партызанскай рэспубліцы», а па-другое, не скончыў філалогіі... у менскім універсітэце, як «уся беларуская літаратура».

У Маскве ж, наадварот, Быкаў са сваёй «акопнай праўдай вайны» трапіў на вока і кансультанту па беларускай літаратуры СП СССР, перакладчыку Міхаілу Гарбачову, і рэдактару «Нового мира», «легальнаму апазіцыянеру» Аляксандру Твардоўскаму. Справа ў тым, што тагачасная беларуская літаратура мела (за малым выняткам, як Караткевіч) толькі... дзве тэмы: «вайна і вёска», – як гэта трапна акрэсліў Іван Антонавіч Брыль. Але – вёска нашая была Маскве без патрэбы. І тут Быкаў – тая ж «окопная правда», «лейтенантская проза», якую Маскве рэпрэзентавалі такія розныя аўтары, як камуніст Бондараў («Батальоны просят огня») і дэмакрат Бакланаў («Пядь земли»). Аповесці Быкава «Жураўліны крык» і «Трэцяя ракета» забяспечылі вядомасць і папулярнасць так хутка і так надоўга, бо па-за добрай якасцю – да чаго спрычыніўся найлепшы ў нас стыль-рэдактар У. Дамашэвіч – трапілі на добра падрыхтаваную глебу.

Нечаканым для чытача было тое, што куды прасцей праз г.зв. «цэнзуру» праходзілі... самі літаратурныя творы, чым іх тэатральныя пастаноўкі, а тым болей кінаэкранізацыі – як гэта было са славутай «Альпійскай баладай», якую канчаткова абараніў толькі вялікі італьянскі рэжысёр, камуніст Вісконці. Чаму так? Бо літаратура, якую саветы мелі за частку ідэалогіі, ад часоў І. Сталіна падлягала адразу партыйнай і адзінай цэнзуры (папярэдняй, ясная справа). Альбо – чытаў Быкава толькі рэдактар і рэферэнт (потым сакратар А. Кузьмін) з ЦК КПБ. І ўсё. І гэтая «тройца» сама міжсобку неяк урэшце рэшт дамаўлялася. (Напрыклад, не хацелі друкаваць «Сотнікава». І рэдактар Барыс Сачанка, на жаль, ужо нябожчык, сказаў: «Ды Божа мой, Васіль! Напішы ты адзін раз, што твой Сотнікаў камуніст – і ўвесь ЦК не будзе ведаць, што сказаць...» Так зрабілі – і Сотнікаў пайшоў у друк без іншых паправак.).

Рэжысёр Ларыса Шапіцька ледзь «прабіла» «Узыходжанне» паводле быкаўскага «Сотнікава» – гэта ўжо потым фільм браў прызы на еўрапейскіх фестывалях...

Канец 60-х і пачатак 70-х XX стагоддзя сягоння выглядае як нейкі тэатр абсурду: шалёныя – на кіруючых пасадах, а «дысыдэнты» (альбо няхай іначай, але якія думаюць) – у псіхіятрычных шпіталях альбо ў лагерах. Сонная вясковая Беларусь (у прыватнасці Гродна), што праўда, абмяжоўвалася ўсялякімі выключэннямі, звальненнямі і «воўчымі білетамі»: не адзін год без грошай і працы, маючы трох дзяцей, бегаў «по инстанциям» празаік Карпюк; страціў навуковую ступень і вылецеў чорнарабочым на базу гароднiны гісторык Клейн etc. Але гарадзенскім Быкаў быў ужо не па зубах.

Тэхналогію літаратуры яе спажывец, альбо чытач, уяўляе слаба – зрэшты, як усялякі чалавек усялякую тэхналогію, у якой не працуе. У школах навучаюць, што спачатку аўтар назірае жыццё, потым шукае тэму, потым лапае настрой і натхненне etc. І гэтак робіць – але тыя, чые прозвішчы пад іх «творамі» можна пераблытаць, і ніхто, па-за самімі «творцамі», гэтага не заўважыць. А ў кожнага майстра – свая тэхналогія, што вынікае з яго першай прафесіі: Васіль Быкаў адначасова быў мастаком (найлепш пісаў пейзажы) і... артылерыстам-матэматыкам, таму кожную аповесць бачыў і апрацоўваў наперад, ад пачатку і да канца. Пачынаў ён з таго, што купляў... рабочы нататнік і маляваў карту будучай аповесці з дакладнасцю тапографа – усе тыя карты рэальныя, бо выпадкаў і «тэмаў» лейтэнант з першай лініі можа не выдумляць, але пазычыць кожнаму, хто без тае «тэмы» пакутуе. Кожную аповесць Быкава можна абмераць матэматычна: усё адбываецца ў рэальным часе і ў рэальным месцы. Гэта што датычна «праўды вайны». Найбольш цікава тое, што Быкаў... заўжды доўга мучыўся з выбарам імёнаў і прозвішчаў сваіх нешматлікіх персанажаў: у яго рэдка дзейнічае больш за пяць-сем чалавек, – бачыў нейкую пячатку лёсу, перадвызначанасць чалавека, адбітую ва ўсім, нават у выпадковых імені і прозвішчы. А тая вайна... толькі праяўляла чалавека, якім ён быў насамрэч. І як у чорна-белай фатаграфіі чорнае выходзіла белым, а белае – чорным. А далей у нататніку – сюжэт пункцірам і... толькі тры-чатыры «апорныя» рэплікі. Пісаў нібыта лёгка, адразу гатовы тэкст, без чарнавікоў. Бо ведаў, чаго хацеў.

«Бальшыня зацята маўчала, – піша Быкаў. – Каб выказаць сумленную думку і не выклікаць падозрання, трэба было мець вельмі адмысловы розум, якім мала хто з нас валодаў. Мы былі надта прастадушныя ў думках і прасталінейныя ў дзеяннях...»

Мемуары «Доўгая дарога дадому» я ўспрымаю перадусім як развітанне Быкава з мінулым і з яго ілюзіямі. З гэтай самай прычыны адмаўляю папрокі калегаў, чаму ў «Доўгай дарозе дадому» Быкаў... пабаяўся (!!!) напісаць падрабязна пра Пазьняка, пра Лукашэнку... Бо Быкаў напісаў пра Быкава. Бо гэта мемуары. Пра Пазьняка мае пісаць Пазьняк. А пра Лукашэнку – Лукашэнка. Бо літаратуру (і гісторыю!) кожны мае рабіць і робіць сам.

***Алесь Чобат***

## З кнігі «Доўгая дарога да дому»:

**«...Аднойчы ўвечары ён (Барыс Клейн – рэд.) прыйшоў да мяне на кватэру, мы пасядзелі трохі, і я пайшоў яго праводзіць дадому. Самую важную частку размовы, вядома, прыпасалі да гэтага часу. Клейн жыў недалёка, у цэнтры горада, каля турмы. Прайшлі ў адзін канец, затым у другі. Было ўжо цёмна, людзей на вуліцы трапляла няшмат. Ля самага яго пад'езду раптам перад намі выніклі трое, заступілі дарогу. Сьпярша мы нават не зразумелі, чаму яны перагарадзілі нам вузкі шлях, як тут жа атрымалі па ўдары ў твары – я і Барыс. У таго адразу ўпалі пад ногі акуляры, я здушана крыкнуў: «У чым справа?» І зноў атрымалі – другі раз. Тады мы закрычалі – на ўсю вуліцу. Адзін таропка перайшоў на другі бок, дзе ўжо стаяў трэці зь іх групы. Астатні раптам наблізіўся амаль ушчыльную, але замест таго, каб ударыць, ціха сказаў: «Простите, ребята!» І пайшоў да тых двух...»**

***Схема, складзеная Васілём Быкавым да аповесці "Яго батальён"***

*(Ліст з працоўнага нататніка пісьменніка)*

# Ён не памёр!

***«Мне Бог даў быць знаёмым з Васілём Быкавым...***

***Ён для мяне быў і братам, і бацькам, і сябрам. Для мяне страта Васіля – гэта страта ўсяго. Тры зоркі для мяне зззяюць – гэта Бог, маці і Васіль Быкаў. Я пад гэтым сузор'ем жыў і жыву»,*** **– гаворыць пра Васіля Быкава паэт Рыгор Барадулін.**



**Сябры назаўсёды – Рыгор Барадулін і Васіль Быкаў**

– Мне імя Быкава было вядома са школы. Бо мы землякі. Вёска Бычкі, дзе нарадзіўся Быкаў, ад Вушачаў, можа, кіламетраў пятнаццаць-шаснаццаць, – працягвае свой аповед дзядзька Рыгор. – Васіль Быкаў ужо друкаваўся; ягонае імя пачало гучаць, калі я быў яшчэ шкаляром. У нас на кватэры жыла Марыя Быкава, цёзка паводле прозвішча. Бо там, у Бычках, шмат Быкавых. Гэта, безумоўна, былі Быкі: «аў» дадаў нейкі расейскі пісец...

Пасля я скончыў універсітэт і патрапіў на працу ў «Советскую Белоруссию». Рэдактарам яе быў тады Здаравенін. Дарэчы, відаць, з сібіракоў. А можа, з сібірскіх беларусаў, якія былі Здаравенямі, а сталі Здаравенінымі.

Гэта быў час наступу, як і сёння, на ўсё беларускае. Здаравенін, у адрозненне ад шмат якіх рэдактароў цэнтральных беларускіх газет, падтрымліваў беларускае. Дарэчы, ён казаў мне: «У рэдакцыі гавары па-беларуску – хай прывыкаюць, хай ведаюць, дзе працуюць».

І гэты самы Здаравенін паслаў мяне ў Гродна, да Васіля, каб я сустрэўся з ім і прывез апавяданні. Я і сам хацеў паехаць, паглядзець на Быкава. Праўда, у мяне былі і іншыя інтарэсы, бо ў Гродне жыла мая будучая жонка. І вось тады, напрыканцы 1959 года, я і пабачыўся ўпершыню з Васілём.

Удзень ён працаваў у абласной газеце, а ўночы пісаў свае творы. Мяне здзівіла, што Васіль шмат чытаў. З падобнай прагай да чытання я ведаю толькі двух чалавек: Караткевіча і Быкава. Нават да гэтага часу ў мяне ўзнікае пытанне: калі ж ён паспяваў пісаць? Відаць, на сон у Васіля заставалася вельмі мала часу. Чытаў ён, збольшага, светавую літаратуру, еўрапейскую. Не быў прыхільнікам класічных савецкіх твораў, асабліва на ваенную тэматыку.

Васіль, дарэчы, любіў паэзію. Любіў і разбіраўся. Але вершаў ніколі не пісаў. Ён гэтак жартаваў: вершаў і даносаў ніколі не пісаў...

...Мы з ім хадзілі і па вуліцах тады ціхага Гродна, заходзілі ў нейкія кавярні ці маленькія рэстаранчыкі, гулялі па замерзлым, ледавітым Нёмане. Размаўлялі... З Васілём цікава было гутарыць. Ён ужо ў той час казаў нейкія такія рэчы, якія пасля – у гэтак званую перабудову – і не агучваліся. Васіль ніколі да канца жыцця не хлусіў, гаварыў мала, але канкрэтна. І для мяне гэта было школай мужнасці.

Гродна для мяне доўгі час асацыяваўся толькі з ім. Пакуль ён жыў у гэтым горадзе, я як мага часцей стараўся ездзіць туды. Яму, магчыма, у Гродне было спакайней, таму ён тут так доўга жыў. Ды і насамрэч, навошта ехаць у сталіцу, калі там, дзе Быкаў, быў цэнтр вольнай думкі, беларускай літаратурнай думкі? І атачэнне ягонае было прыемнае: Карпюк, Клейн...

***– Усё-ткі час вашага знаёмства – гэта час гэтак званай «хрушчоўскай» адлігі. Як той час уплываў на Васіля Быкава?***

– Для Васіля ва ўсе часы не было тэрмінаў «адліга», «замаразкі» ці «люты мароз». Васіль заўсёды казаў тое, што думаў. Але ён ніколі не быў чалавекам на трыбуне, які нешта выгукваў ці куляўся разам з павевамі часу... А вось, на жаль, у нас яшчэ будзе 3-4 пакаленні генетычна савецкіх хлопцаў і дзяўчат. У літаратуры і ўвогуле. Яны не вінаватыя ў гэтым. А Васіль быў Васілём змалку і застаўся ім. Ён не мог быць савецкім ані па выхаванні, ані па той жыццёвай школе, якую прайшоў. Ён быў натуральным беларусам, сумленным. Стопрацэнтным крывічом. Не, Васіль не змяняўся. Ён быў як гара, якая думае. Ён быў настолькі самадастатковы, што яго ніякія павевы не кранalі. Але ён, безумоўна, стараўся ўбачыць і цягнуўся ўвесь час: можа, выблісне нейкая надзея?

З першых дзён быў у Беларускім Народным Фронце. І ўвогуле – там, дзе былі нейкія зрухі ў лепшы бок. У бок дэмакратызацыі і адраджэння беларускасці.

***– Як Васіль Быкаў ставіўся да беларускай гісторыі і перспектыў краіны?***

– Ён вывучаў беларускую гісторыю па ўсіх магчымых крыніцах, вельмі ўважліва і ўдумліва. Пра гэтую цікавасць сведчаць яго самыя далікатныя адносіны і апекаванне Уладзімірам Караткевічам. Яны былі вялікія сябры.

І перспектыву для Беларусі Васіль Быкаў бачыў усё-ткі ў аднаўленні гістарычнай памяці.

У апошнія гады ў яго з'явіўся пэўны песімізм. Але я лічу, што гэта быў здаровы песімізм. Ён лепей за бадзёры аптымізм савецкага разліву. Здаровы песімізм абуджае думку і ўскосна яе варушыць.

***– Як на яго жыцці адбіліся тыя цяжкасці і непрыемнасці, якія пачаліся адразу пасля выхаду яго першых «ваенных» твораў, якія не ўпісаліся ў пракруставы ложак тагачаснай ваеннай прозы?***

– Ён збіраў усё вонкавае сабе ў душу і насіў там. Усе крыўды і абразы ён насіў з сабой. Аднойчы ў яго вырвалася такая фраза: «І тады ў мяне ўсё затрымцела!» Васіль па натуры быў рамантыкам, летуценнікам. А абставіны жыцця вымусілі яго зрабіць сабе моцнае забрала. Ён быў вельмі самадысцыплінаваны, загартаваны вайной... Але, паказальна, што пра вайну мы з ім амаль і не гаварылі... Пісьменніка, больш трапяткога і ўражлівага ўнутры, я, відаць, і не ведаю ў нашай літаратуры.

... Апошнія месяцы ён трымаўся мужна. Апошні раз я быў у яго на дні нараджэння. Вонкава было бачна, як кепска Васілю. Я ніколі не чуў ад Быкава ані стогнаў, ані плачу – нават у апошнія дні. Увесь боль ён трымаў у сабе.

Я не магу сказаць сабе, што сёння я без Быкава. Я застаюся з ім – і пайду туды, да Васіля. Ёсць, безумоўна, адчуванне, што ў нас тут глуха і пуста без яго. Але Васіль ёсць – ён у паветры, у душах, у наваколлі.

**Генадзь Барбарыч**

## З кнігі «Доўгая дарога да дому»:

**«...На той час Карпюк дамогся ад абласнога начальства, каб пісьменнікам паставілі нарэшце тэлефоны і тое было зроблена. Стала зручна куды пазваніць, не трэба было бегчы на пошту ці да аўтаматаў, якія ніколі не былі спраўныя. Але пачалося іншае ліха, прынамсі для мяне. Пачалі званіць – з Горадні, Менску, Масквы ці чорт ведае адкуль, – не называючыся. То быў формены тэлефонны тэрор, пэўна кімсьці арганізаваны. Але вядома, кім. У любы час дня і ночы трашчэў тэлефон, устрывожаны, я ўскокваў з ложку і чуў першае пытанне: «Да якога часу вы будзеце падрываць савецкую ўласць?» Або: «Многа вам заплаціла ЦРУ за паклёп на партыю і Чырвоную Армію?..»**

## БІБЛІЯГРАФІЯ


### Беларуская мова

Жураўліны крык, кніга, 1960.
Здрада, аповесць, 1961.
Трэцяя ракета, аповесць, 1962.
Альпійская балада, аповесць, 1964.
Пастка, аповесць, 1964.
Мёртвым не баліць, аповесць, 1965.
Сваякі, аповесць, 1966.
Праклятая вышыня, аповесць, 1968.
Круглянскі мост, аповесць, 1969.
Сотнікаў, аповесць, 1970.
Абеліск, аповесць, 1971.
Дажыць да світання, аповесць, 1973.
Воўчая зграя, аповесць, 1974.
Яго батальён, аповесць, 1975.
Пайсці і не вярнуцца, аповесць, 1978.
Знак бяды, аповесць, 1982.
Аблава, аповесць, 1986.
Кар'ер, раман, 1986.
У тумане, аповесць, 1987.
На крыжах, кніга, 1992.
Сцюжа, аповесць, 1993.
На Чорных лядах, аповесць.
Перад канцом, аповесць.
Бедныя людзі, аповесць.
Ружовы туман, апавяданне, 1995.
Сьцяна, кніга, 1997
– Вайна і Перамога, эсэ
– Пахавай мяне, салдацік, аповесць
– Ружовы туман
– Пагорак
– Палітрук Каламіец
– «Кацюша»
– Палкаводзец
– Падоранае жыццё
– Жоўты пясочак
– На Чорных лядах
– Перад канцом
– Народныя мсьціўцы
– Бедныя людзі
– Музыка
– Восьлік
– Сьцяна
Ваўчыная яма, аповесць, 1998.
Балота, аповесць, 2001.
Эквівалент, гістарычнае апавяданьне.
Збор твораў, Т. 1-4, Мн., 1980-82.
Збор твораў, Т. 1-6, Мн., 1992-94.
Бугаёў Дз. Васіль Быкаў. Мн., 1987.
Пахаджане, кніга.
Доўгая дарога дадому, ГА БТ «Кніга», Менск 2002.

### Руская мова

Василь Быков. Колокола Хатыни. Пер. с белорусск. – автор.
В кн.: «Василь Быков. Повести». Днепропетровск, «Проминь», 1987.
Василь Быков. Обелиск. Пер. с белорусск. – Г. Куренева.
В кн.: «Василь Быков. Повести». Днепропетровск, «Проминь», 1987.
Василь Быков. Сотников. Пер. с белорусск. – автор.
В кн.: «Василь Быков. Повести». Днепропетровск, «Проминь», 1987.
Василь Быков. Третья ракета. Пер. с белорусск. – М. Горбачев.
В кн.: «Василь Быков. Повести». Днепропетровск, «Проминь», 1987.
Василь Быков. Альпийская баллада. Пер. с белорусск. – М. Горбачев.
В кн.: «Василь Быков. Повести». Днепропетровск, «Проминь», 1987.
Василь Быков. Повести, Ленинград, Лениздат, 1987.
Василь Быков. Карьер. Пер. с белорусск. – автор., М., «Книжная палата», 1988.
Дедков И. Василь Быков. М., 1980

### Английская мова

Bykau, Vasil. His battalion; and, Live until dawn.
Vasil Bykov; translated by Jennifer and Robert Woodhouse St. Lucia, Qld.: University of Queensland Press, c1981 xii,412p; 22cm.
Bykau, Vasil, 1924– Sign of misfortune / Vasil Bykov ; translated from the Russian by Alan Myers. New York, NY : Allerton Press. c1990. x, 240 p. ; 24 cm.
Bykau, Vasil The Way of the Cross.
Bykau, Vasil, 1924– Alpine ballad ; Hold out till dawn / Vasil Bykov.Published: Moscow : Raduga Publishers, c1989.
Bykau, Vasil, 1924– Alpine ballad / Vasil Bykov ; [translated from the Russian by George Hanna].Published: Moscow : Progress Publishers, [1966].
Bykau, Vasil, 1924– His battalion ; and, Live until dawn / Vasil Bykov ; translated by Jennifer and Robert Woodhouse.Published: St. Lucia, Qld. ; New York : University of Queensland Press, c1981.
Bykau, Vasil, Sotnikau. The ordeal [by] Vasily Bykov. Translated from the Russian by Gordon Clough. New York, E. P. Dutton, 1972.
Bykau, Vasil, 1924– Sotnikau. The ordeal [by] Vasily Bykov; translated from the Russian by Gordon Clough. Published: London, Bodley Head, 1972.
Bykau, Vasil, The third flare; three war stories.Published: Moscow, Foreign Languages Pub. House [1963].
Bykau, Vasil, 1924– Pack of wolves / by Vasil Bykov ; translated from the Russian by Lynn Solotaroff.Published: New York : Crowell, c1981.
Bykau, Vasil, Portent of disaster: Byelorussian story / Vasil Bykov; translated from Byelorussian by Nigel Timothy Coey. Published: Minsk: Mastatskaya Litaratura Publishers, 1989.
L. Lazarev. On craftmanship / V. Bykov; [translated from the Russian by Amanda Calvert].Published: Moscow: Raduga Publishers, 1986.


***Больш падрабязна на http://bykau.by.ru/other/bibliogr.htm***




**ДЕНЬ**

**Заснавальнік ТДА «Дзеньпрэс»**

Галоўны рэдактар **Генадзь Барбарыч**

Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь.
Выходзіць з красавіка 2001 года.
Рэгістрацыйны нумар 1587.
Адрас рэдакцыі: 220050, г. Мінск, вул. Інтэрнацыянальная, д. 16, пакой 226.

Нумар газеты надрукаваны ва унітарным прадпрыемстве «Друкарня Перамога»: 222310, г. Маладзечна, вул. Таўлая, 11.
Наклад 5000 паасобнікаў. Замова 2332.
Аб'ём – два ўмоўныя друкарскія аркушы.
Падпісаны да друку а 18 гадзіне 22.07.2003.